# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №5 (115)
САКАВІК 2012 ГОДА


**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

**ПОГЛЯД РЭДАКТАРА**

## КОЖНЫ ЗРОБІЦЬ СВАЕ ВЫСНОВЫ

**Растрэл двух віцебчукоў, Зміцера Канавалава і Уладзіслава Кавалёва, якія па версіі следства і суду самастойна здзейснілі выбух у менскім метро, ускалыхнуў грамадскую думку. Гэтую падзею актыўна абмяркоўвалі не толькі журналісты, палітыкі і грамадскія актывісты, але і звычайныя людзі. Можна сказаць, што паспешлівае выкананне прыгавора ўзарвала інтэрнэт.**

Відавочна: на ўсіх сайтах абмеркаванню гэтае падзеі адводзілася ці ні галоўнае месца. Не засталіся ў баку і віцебскія блогеры ды звычайныя наведнікі сайтаў(http://news.vitebsk.cc , http://blogi.vitebsk.biz)

Усіх неабыякавых можна падзяліць на дзве катэгорыі: тых, хто верыць афіцыйнай версіі ды адносіцца станоўча да існавання на Беларусі смяротнага пакарання і тых, хто не давярае выраку суда і выступае за адмену смяротнага пакарання. Асабліва шмат грамадзянаў абураныя забойствам Кавалёва, які не прымаў непасрэднага ўдзелу ў вырабе выбуховага прыстасавання і здзяйсненні самага выбуху. У многіх склалася такое ўражанне, быццам бы за адно з Канавалавым знішчылі непажаданага сведку.

Газета "Народная Воля" з 15 па 18 сакавіка правяла апытанне на тэму, чаму Зміцеру Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву было адмоўлена ў памілаванні. Большасць, 75% ад ліку прагаласаваўшых, а ў апытанні прыняў удзел 1160 чалавек, упэўнены: «каб схаваць канцы ў ваду».

З вялікім адрывам ад першага, другое месца заняло меркаванне, што адмова ў памілаванні была праявай валюнтарызму. «Жадаю – караю смерцю, жадаю – мілую. Цар я ці не цар?» – гэты варыянт адказу атрымаў 10% галасоў. «Гэта і ёсць той самы «адэкватны цвёрды адказ» Еўрасаюзу» – 4%. «Прэзідэнт пабаяўся, што праява людскасці будзе ўспрынята як слабасць» – 3%. Гэтулькі ж удзельнікаў галасавання прынялі афіцыйную версію адмовы, паверыўшы, што «рашэнне абумоўлена «вылучнай небяспекай і цяжарам наступстваў для грамадства ад дасканалых злачынстваў». «Прэзідэнт палічыў, што супраць смяротнага пакарання выступаюць толькі яго палітычныя апаненты і паступіў у піку ім» – усяго 2% галасоў.

Такім чынам, па меркаванні абсалютнай большасці ўдзельнікаў галасавання, адмова ў памілаванні не была псіхалагічнымі асаблівасцямі ці палітычным разлікам з боку таго, хто выносіў гэта рашэнне. А з'яўлялася дзеяннем, у якім удзельнікі галасавання западозрылі злы намер, па ўтойванні нейкай праўды.

З гэтае нагоды праваабаронца Таццяна Рэвяка распавяла «Салідарнасці», што асабліва абурае ў хуткім выкананні смяротнага прысуду ў стаўленні да Уладзіслава Кавалёва.

Праваабаронца ўспамінае яшчэ адзін прысуд, які прывялі ў выкананне імгненна – прысуд па справе «банды Марозава». – Там была «цікавая» асаблівасць. Марозаў праходзіў сведкай па іншай справе і павінен быў даваць сведчанні ў Вярхоўным судзе. Аднак высвятлілася, што ён не зможа гэтага зрабіць, паколькі яго ўжо расстралялі. Выкананне прысуду супала з часам, калі Марозаў пачаў даваць сведчанні супраць супрацоўнікаў міліцыі, якія «страхавалі» банду доўгія гады. Астатнія асуджаныя да вышэйшай меры пакарання жылі пасля вынясення прысуду і выкананні нацыянальных і наднацыянальных працэдур яшчэ каля паўгода," – распавяла праваабаронца.

У рэшце рэшт кожны грамадзянін Беларусі зробіць свае высновы з гэтае падзеі і прыме тую ці іншую пазіцыю, але тое, што ў гэтай дзяржавы існуюць вялікія праблемы з даверам народу і да ўлады, і да яе судовай сістэмы – гэта неабвержны факт.

**Рэдактар.**

**ДЗЕНЬ ВОЛІ**

## Ушанавалі святую дату – Дзень БНР

**У Віцебску з нагоды Дня Волі, ня гледзячы на забарону афіцыйнага сьвяткаваньня з боку мясцовых уладаў, беларусы, якія не забылі свае нацыянальныя святыя, ўсклалі кветкі ды мэмарыяльнай дошкі, прысьвечанай Васілю Быкаву, і да помніка Уладзімеру Караткевічу.**

Каля помніка Караткевічу гучалі ягоныя творы. Прысутныя згадвалі палітвязьняў, у тым ліку земляка Сяргея Каваленку, які трымае ў менскай турме доўгатэрміновую галадоўку.

Пра гэта ў кароткай прамове гаварыў каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў:

«Мы ўспамінаем палітвязьняў, якія ў турмах пакутуюць за Беларусь. Успамінаем Сяргея Каваленку, які ў вязьніцы пакутуе за наш сьцяг, за нашу сымболіку. Жыве Беларусь!»

Адна з удзельніц сьвяткаваньня Тацяна Северынец сказала:

«Сабралася кола сяброў, якія заўсёды прыходзяць на гэтае сьвята, якія не баяцца ісьці пад пільным наглядам, у гэтым коле міліцыянтаў, якія ўсё здымаюць, каб потым нам «прад'явіць», што гэта было несанкцыянаванае шэсьце, ці мітынг, ці яшчэ нешта... Ну што зробіш, калі мы жывем у такіх умовах! Але душу ж не зламаць, мову беларускую - ня выкрасьліць, пачуцьце любові да Радзімы не змарнаваць! Таму, як бы там ні было – а гэта сьвята!»

**С. Тутэйшы.**

**ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ**

## Суддзя і пракурор па справе Каваленкі – у "чорным спісе" ЕС

**На паседжанні 23 сакавіка Еўрасаюз дадаў да санкцыйнага спіса яшчэ 12 імёнаў асобаў і 29 прадпрыемстваў з Беларусі. Сярод іх суддзя Алена Жук і пракурор Дзмітрый Лутаў, якія фігуравалі ў справе Сяргея Каваленкі.**

Тлумачацца і прычыны ўключэння гэтых службовых асобаў у спіс.

Алена Жук – суддзя суда Першамайскага раёна ў Віцебску. Прысудзіла Сяргею Каваленку, які з пачатку лютага лічыцца палітычным зняволеным, турэмны тэрмін у 2 гады і адзін месяц за парушэнне рэжыму прабацыі. «Наўпрост адказная за парушэнні правоў чалавека, бо адмовіла Сяргею Каваленку ў праве на справядлівы працэс. Папярэдне Сяргей Каваленка быў умоўна асуджаны за вывешванне забароненага ўладамі гістарычнага бел-чырвона-белага сцяга ў Віцебску».

Дзмітры Лутаў – пракурор на працэсе Сяргея Каваленкі. «Вынесены прысуд па справе — дыспрапарцыйна жорсткі, улічваючы прыроду злачынства, і не адпавядае крымінальнаму кодэксу Беларусі".

Яшчэ ў чорны спіс ЕС трапілі два бізнэсмэны і 8 прадстаўнікоў сілавых структур.

**Ян Сведка.**

## СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ ЭТАПАВАЛІ Ў «ВІЦЬБУ-3»

**У ноч на 26 сакавіка галадоўніка Сяргея Каваленку адправілі этапам ў псыхіятрычную турэмную лякарню пры віцебскай калёніі Віцьба-3.**

Пра гэта 26 сакавіка ў адміністрацыі «Валадаркі» паведамілі маці галадоўніка Лідзіі Каваленка і намесьніку старшыні партыі КХП-БНФ Юрасю Беленькаму.

«Нам сказалі, што ў іх няма іншага выйсьця, каб вывесьці яго з галадоўкі, акрамя накіраваньня ў такі шпіталь, каб пасьля на падставе пэўнага дыягназу ўжыць мэтады прымусовага харчаваньня. Класьці Сяргея ў цывільны шпіталь міліцыянты адмовіліся, хаця мы настойвалі менавіта на такім варыянце», — сказаў «Свабодзе» Юрась Беленькі.

Сяргей Каваленка галадуе з перапынкам з сярэдзіны сьнежня мінулага года.

Як паведаміў "Свабодзе" былы асуджаны віцебскай калоніі Алег ён ведае, што галадоўнікаў у аддзяленьнях псыхіятрычнага шпіталю могуць карміць прымусова, як нейкай харчовай сумесьсю, так і мэдыкамэнтознымі растворамі. Хутчэй за ўсё, такім чынам будуць вяртаць да жыцьця і палітвязьня.

Што да спэцыяліста-псыхіятра, які аглядаў Алега (таксама падчас галадоўкі), то пра яго ў асуджанага засталіся добрыя ўражаньні: «Не садыст, а прафэсыянал, вонкава чымсьці падобны на папулярнага ў свой час маскоўскага журналіста Ўлада Лісьцьева».

**Паводле "Радыё Свабода".**

## У ВІЦЕБСКУ ЗАТРЫМАЛІ ДЗЯЎЧЫНУ З ПЛАКАТАМ У ПАДТРЫМКУ КАВАЛЕНКІ

**Каля паўгадзіны прастаяла актывістка "Еўрапейскай Беларусі" Алена Семенчукова ў пікеце недалёка ад сінягa дома" ў Віцебску.**

У руках яна трымала плакат з надпісам "Свабоду Сяргею Каваленку" і здымкам палітвязня.

Затым яе затрымалі і завезлі ў Чыгуначны РАУС Віцебска.

### АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты « Покліч волі ».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

НАША БЯСПРАЎЕ

# У ЗАДАВАЛЬНЕННІ СКАРГІ АДМОЎЛЕНА

**20 сакавіка ў судзе Кастрычніцкага раёну Віцебску разглядалася скарга прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасьці на рашэньне намесьніка старшыні Віцебскага гарвыканкаму Уладзімера Шломы аб забароне правядзеньня 25 сакавіка вулічнага шэсьця і сходу. Скаргу ў суд падавалі заяўнікі меркаванай акцыі – віцебскі каардынатар руху "За свабоду" Хрыстафор Жаляпаў, сябра аргкамітэту па стварэньні БСДП "Народная грамада" Аляксей Гаўруцікаў, кіраўнік суполкі КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў. Праз суд яны хацелі дамагчыся адмены згаданага вышэй рашэньня гарадскога чыноўніка, аднак судзьдзя Алена Папкова ў задавальненьні скаргі адмовіла.**

Было ў аўтараў звароту ў суд і яшчэ адно патрабаваньне: яны прасілі судзьдзю абавязаць камунальнікаў, мэдыкаў і міліцыянтаў заключаць дамовы на абслугоўваньне масавых мерапрыемстваў зь іх арганізатарамі. Бо адсутнасьць такіх дамоваў улады зазвычай выкарыстоўваюць як нагоду для забароны мерапрыемстваў, у выніку чаго цягам апошніх гадоў у Віцебску не была задаволеная ніводная зь дзясяткаў заявак на правядзеньне акцыяў, пададзеных у органы ўлады грамадзкімі актывістамі і праваабаронцамі. Гэтае патрабаваньне судзьдзя Папкова вырашыла пакінуць без разгляду.

Гэтым разам у якасьці адказчыка на судзе выступалі не раённыя адміністрацыі гораду, а гарвыканкам – той самы дзяржворган, які ў 2009 годзе прыняў сумна вядомае "рашэньне № 811", якое зьмяшчае невыканальныя, на думку актывістаў, патрабаваньні, з-за якіх правядзеньне масавых мерапрыемстваў у горадзе стала практычна немагчымым.

Падчас суду галоўная спэцыялістка юрыдычнага аддзелу гарвыканкаму дала вельмі арыгінальную інтэрпрэтацыю згаданага "рашэньня № 811". У першым пункце рашэньня гаворыцца: "Вызначыць пастаяннымі месцамі правядзеньня масавых мерапрыемстваў у горадзе Віцебску…" – далей пералічваюцца пляцоўкі, што ўлады адвялі пад акцыі. Пункт другі рашэньня: "Пастанавіць, што месцы правядзеньня іншых масавых мерапрыемстваў вызначаюцца ў кожным канкрэтным выпадку".

Паводле словаў юрысткі, выраз "іншыя масавыя мерапрыемствы" пункту 2 трэба разумець ня як "мерапрыемствы, што не адпавядаюць умовам пункту 1" –такое разуменьне тэксту падказвае лёгіка і здаровы сэнс – а чамусьці ў кантэксьце… прэамбулы "Закону аб масавых мерапрыемствах". У прэамбуле гаворыцца: "Гэты Закон вызначае парадак арганізацыі і правядзеньня ў Рэспубліцы Беларусь сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацыяў, пікетаваньня і іншых масавых мерапрыемстваў". Дык, згодна з трактоўкай заканадаўства галоўнай спэцыялісткай юраддзелу выканкаму вынікае што, калі заяўленае мерапрыемства спалучае ў сабе вулічнае шэсьце і сход, значыць яно ня можа быць "іншым масавым мерапрыемствам" пункту 2 …"рашэньня № 811". Дзіўная лёгіка!

Зрэшты, тое, што правядзеньне імпрэзы меркавалася ў месцы, не адзначаным ў пункце 1 "рашэньня № 811", было не адзінай падставай для забароны мерапрыемства намесьнікам старшыні гарвыканкаму Шломам. Чыноўнік таксама не забыў згадаць у сваім забараняльным лісьце пра невыкананьне арганізатарамі меркаванай акцыі пункту 3 "рашэньня № 811". Згодна з пунктам 3, да заявы на правядзеньне масавага мерапрыемства неабходна прыкласьці дамовы на абслугоўваньне мерапрыемства з УУС, Віцебскай гарадзкой цэнтральнай паліклінікай і прадпрыемствам ЖКГ.

Яшчэ не было ніводнага выпадку, калі са згаданымі службамі адпаведныя дамовы ўдалося б заключыць. Кожны раз знаходзіліся прычыны, каб адмовіць арганізатарам акцыяў у такіх дамовах. Так было і гэтым разам. Міліцыянты абгрунтавалі сваю адмову тым, што "мерапрыемства забароненае гарвыканкамам" - прычым адправілі свой адказ за два дні да таго, як рашэньне аб забароне было прынятае ў выканкаме - напэўна, нейкі "прарок" падказаў ім, што будзе менавіта такое рашэньне. Камунальнікі адказалі, што "заключыць дамову няма падставаў", бо і безь якой-колвек дамовы прыбіраньне тэрыторыі будзе імі забясьпечанае. Але самы цікавы адказ на просьбу заключыць дамову падрыхтаваў намесьнік галоўурача паліклінікі: ён напісаў, што дамова ня можа быць заключаная з тае прычыны, што ўдзельнікі масавага мерапрыемства… перашкодзяць бясьпецы руху транспарту. Прычыны адмоваў - яўна недарэчныя, таму Жаляпаў, Гаўруцікаў і Дзяржаўцаў хацелі праз суд дамагчыся, каб лекараў, сьмецьцяроў і праваахоўнікаў абавязалі ў адпаведнасьці з патрабаваньнем "рашэньня № 811" заключаць неабходныя дамовы.

Дамагчыся мажлівасьці рэалізоўваць свае грамадзянскія і палітычныя правы віцебскія апазыцыянэры зноў не змаглі.

**Ян Сведка.**

ЭКАНОМІКА

# ПЕРШЫ INVEST WEEKEND У ВІЦЕБСКУ

**Invest Weekend- гэта некамерцыйнае мерапрыемства, дзелавы форум, накіраваны на павелічэнне колькасці інавацыйных бізнэс-праектаў, рэалізацыю прарыўных бізнэс-ідэй і ўкараненне новых тэхналогій, падтрымку інаватараў, вынаходнікаў і прадпрымальнікаў, якія распачынаюць свой бізнес, прыцягненне інвестыцый у бізнэс-праекты і кампаніі на ранніх стадыях развіцця. 16-17 сакавіка ў Віцебску ўпершыню прайшло такое дзелавое мерапрыемства.**

Першы дзень быў практычна цалкам прысвечаны прэзентацыі аўтарамі сваіх бізнэс-праектаў. Уласна прэзентацыя павінна была змясціцца ў дзве хвіліны, на зносіны з экспертамі кожны атрымлівіў яшчэ тры хвіліны. 16 сакавіка ўдзельнікі мерапрыемства прадставілі 17 праектаў.

Другі дзень пачаўся з майстар-класаў, якія праводзілі эксперты. Затым аўтары праектаў працавалі ў камандах, да якіх маглі далучыцца астатнія ўдзельнікі. У выніку на суд фундатараў і экспертаў рэпрэзентаваліся ўжо дапрацаваныя праекты. Ізноў было прадстаўлена 17 бізнэс-праектаў, пры гэтым частка іх была новымі, а частка аўтараў адмовілася ад паўторных прэзентацый.

Усяго, па інфармацыі арганізатараў, у першым віцебскім Invest Weekend-е, які праходзіў у канферэнцзале ВДУ, прынялі ўдзел 150 чалавек, у тым ліку і з-за меж Віцебскай вобласці. Найвялікшая колькасць праектаў было прадстаўлена ў вобласці турызму.

У канцы мерапрыемства фундатары і эксперты вызначылі трох пераможцаў: у намінацыі «Самы інавацыйны праект» – дызайн-праект кафедры дызайну Віцебскага дзяржаўнага універсітэту ім. Машэрава. Назва праекта «3D мадэль віртуальнага свету»; у намінацыі «Праект з найдужэйшай камандай» перамаглі Валянціна Гоцкала і Вікторыя Шкатула, якія жадаюць рэалізаваць праект «Распрацоўка і продаж турыстычных маршрутаў па верхавых балотах Беларусі» і, нарэшце, у намінацыі «Самы камерцыйна перспектыўны праект» – Алег Трошка з праектам «Радыятары Dafa: вытворчасць сучаснага ацяпляльнага абсталявання». Акрамя дыпломаў пераможцы атрымліваюць магчымасць бясплатна прыняць удзел у чарговым Invest Weekend-е ў Менску.

Гаварыць пра атрыманне прамых інвестыцый аўтарамі прадстаўленых бізнэс-праектаў пакуль рана. Зрэшты некаторыя з іх прама ў зале змаглі знайсці сваіх кліентаў, іншым будзе аказана прафесійная дапамога ў дапрацоўцы іхніх ідэяй.

**Якаў Дрозд.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# УТУЛЬНАЯ АТМАСФЕРА МАЗАЛАЎСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ

У кніжным царстве Мазалаўскай бібліятэкі пануе дух розных эпох, і бібліятэкары Вольга Жураўская і Ала Магон дапамагаюць чытачам выбраць патрэбную літаратуру. Знаўцы бібліятэчнай справы імкнуцца задаволіць запатрабаванні кожнага наведвальніка.

Яны заўсёды ветлівыя і тактоўныя, асаблівая ўвага надаецца прыцягненню да чытання дзяцей. Для іх праводзяцца прэзентацыі новых кніг, мерапрыемствы да юбілею вядомых паэтаў і пісьменнікаў, абмеркаванні прачытаный літаратуры.

У мінулым годзе Жураўская і Магон атрымалі перамогу ў раённых конкурсах: летняга чытання «Лета і кніга», на лепшую рэкламу бібліятэкі. У апошнім конкурсе мазалаўскія бібліятэкары ў выглядзе мульцімедыйнай прэзентацыі запрасілі на экскурсію праз краязнаўчыя мясціны ў царства кніг.

На сёлетні год у Мазалаўскай бібліятэцы запланавана шмат цікавых мерапрыемстваў, разлічаных на ўсе катэгорыі чытачоў.

З задавальненнем В. Жураўская і А. Магон удзельнічаюць у мерапрыемствах, якія праводзяць работнікі мясцовага Дома культуры. Дарэчы ў гэтым годзе стартаваў праект «Вяселле пабеларуску», сааўтарамі якога таксама сталі і гаспадыні кніжнага храма.

**С. Тутэйшы.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# Ці пабачым Альгерда ў бронзе?

**Як вядома, яшчэ ў 2009 годзе Віцебскі гарвыканкам абвясціў пра правядзенне адкрытых творчых конкурсаў на ўсталяванне помнікаў гістарычным асобам, у прыватнасці, вялікаму князю літоўскаму Альгерду, заснавальніку Віцебскіх замкаў.**

Конкурс на ўсталёўку помніка гэтаму дзяржаўнаму дзеячу выйграў вядомы віцебскі скульптар Валер Магучы. Мастак прапанаваў увасобіць вобраз князя Альгерда ў постаці вершніка ў даспехах, з сокалам на правай руцэ, як знак варэства, улады і дзяржаўнасці. Аўтар і на момант выканання праекта, і зараз падкрэслівае, што конная статуя з'яўляецца прыкметай еўрапейскага горада, бо такія помнікі надаюць гораду адмысловую веліч.

Па час дэманстрацыі конкурснай працы больш паловы наведвальнікаў выставы ўхвалілі ідэю ўсталявання дадзенага помніка ў горадзе. Аднак мясцовая ўлада з незусім уцямных прычынаў выступіла з ініцыятывай прыцягу да абмеркавання тэмы як мага большай колькасць гараджанаў і ўжо затым канчатковa вырашыць лёс помніка.

У выставовай зале «Духаўскі круглік» спрэчкі пра неабходнасць усталявання помніка князю Альгерду адкрыў намеснік старшыні гарвыканкама Уладзімір Шлома. Ён падкрэсліў, што ўжо вызначана магчымае месца ўсталёўкі манумента, створана працоўная мадэль з улікам заўвагаў экспертаў пры разглядзе эскізаў Рэспубліканскай мастацка-экспертнай радай па манументальным і манументальна-дэкаратыўным мастацтве.

У грамадскім абмеркаванні прынялі ўдзел прадстаўнікі ўлады, чамусці толькі праваслаўнага духавенства, гісторыкі, краязнаўцы, археолагі, архітэктары, музейшчыкі, журналісты. Агульны вынік: помніку дзяржаўнаму дзеячу, князю літоўскаму Альгерду ў Віцебску – быць. І гэта абгрунтаванае меркаванне.

Пры князю Альгердзе (1296-1377 гг.) у Віцебску пачата ўзвядзенне фартыфікацыйных збудаванняў вакол горада. У выніку каменнымі сценамі з абарончымі вежамі былі ўмацаваны Верхні і Ніжні замкі. У Верхнім – пабудаваны княжыя палаты, у Заручаўе – Свята-Духаўская царква, у Ніжнім замку перабудавана Дабравешчанская царква. За 25 гадоў жыцця Альгерда ў Віцебску горад стаў развітым адміністрацыйным, эканамічным, культурным, ваенным цэнтрам беларускіх земляў.

Як адзначала вядомы археолаг Таццяна Бубенька, Альгерд – першы віцебскі князь, пра якога ёсць пэўныя звесткі. Ён сапраўды вельмі шмат зрабіў для горада, значнасць яго палітычнай дзейнасці не выклікае сумневаў. Яна таксама выказала меркаванне, што «ўзвядзенне помніка стане не толькі для нас вялікай падзеяй, але таксама можа выклікаць дадатны міжнародны рэзананс». Дарэчы сказаць, пакуль адзінае скульптурнае «згадванне» пра Альгерда можна сустрэць на помніку «Тысячагоддзе Расіі», які быў узведзены ў Вялікім Ноўгарадзе ў 1862 годзе.

Падкрэсліваючы маштабнасць гістарычнай постаці, дацэнт кафедры гісторыі ВГУ імя Машэрава Анатоль Дулоаў адзначаў і значную ролю князя Альгерда ў барацьбе супраць крыжакоў, у супрацьстаянні татарскаму нашэсцю, у злучэнні славянскіх земляў.

Пры мінулым абмеркаванні каменем непаразумення стала прапанаванае месца ўсталёўкі помніка Альгерду. Цяпер пастамент знаходзіцца насупраць ратушы, на месцы былой гасцініцы «Брозі». Па словах аўтара помніка В.Магучага, скульптура ўдала ўпішацца ў існы ландшафт. Галоўны архітэктар В.Дубік падкрэсліў, што на дадзены момант не ідзе гаворка пра аднаўленне гасцініцы, такі шанец быў страчаны гадоў восем назад, і таму гэта адкрытае месца можна выкарыстоўваць для ўсталёўкі помніка. Але ёсць іншы пункт гледжання. З усталёўкай статуі дадзеная тэрыторыя страціць рэгенератыўны патэнцыял, і шанец архітэктурнага аднаўлення гэтай часткі вуліцы Талстога, гасцініцы «Брозі», якая мае мемарыяльнае значэнне ў стаўленні, напрыклад, да Шагалаўскіх месцаў, будзе згублены назаўжды. Да таго ж не зусім карэктна ўсталёўваць помнік за межамі гістарычнай тэрыторыі Віцебскіх замкаў, да ўмацавання якіх Альгерд меў прамое стаўленне. Логіка змушае шукаць месца на тэрыторыі Верхняга ці Ніжняга замкаў. Гэтага меркавання прытрымваюцца і намеснік дырэктара абласнога краязнаўчага музея Валерый Шышанаў, і дырэктар Музея Марка Шагала Людміла Хмяльніцкая, археолаг, гісторык Таццяна Бубенька ды іншыя.

Пасля грамадскага абмеркавання праекта ў цэлым і ўхвалы яго з боку віцебчукоў, ён будзе прадстаўлены гародам на разгляд для зацвярджэння кіраўніку дзяржавы, што само па сабе вельмі дзіўна: выходзіць, што ў гарадскога кіраўніцтва і віцебскага жыхарства няма ніякіх правоў нават у такой банальнай справе, як усталяванне помніку ў сваім горадзе. Як кажуць: без каментароў.

За апошнія некалькі гадоў Віцебск праславіўся тым, што мясцовая грамадскасць зламала не адну сотню слоўных дзідаў, змагаючыся за навуковую адгрунтаванасць ва ўсталяванні помнікаў вядомым гістарычным асобам, лёс якіх быў нейкім чынам звязаны з нашым горадам.

Для мяне ў гэтым шэрагу прэтэндэнтаў, напрыклад, не зразумелая тая абыякавасць, якая пануе вакол асобы Льва Сапегі, які нарадзіўся на віцебскай зямлі, і які стаў ці ні найбуйнейшай дзяржаўнай асобай за ўвесь час існавання дзяржаўнасці на нашых землях.

Так сталася, што сучасная Беларусь, не з'яўляючыся дэмакратычнай краінай, вымушаная залежыць ад палітычнай кан'юнктуры ды імперскага здумлення. 20 гадоў, якія прайшлі з моманту ўтварэння РБ, не хапіла Віцебскім уладам для таго, каб вызначацца з імёнамі, якія мусяць быць увасоблены ў бронзе. У гэтым шэрагу праблема, ўзніклая вакол князя Альгерда, досыць заканамерная, таму ейнае вырашэнне бедзе пэўным сігналам: у які бок будзе рухацца манументальнае ўвасабленне ў горадзе.

**Якаў Дрозд.**

ЕЎРАПЕЙСКІ НАПРАМАК

# ПАШЫРЭННЕ САНКЦЫЙ ЕС ДАТЫЧЫЦЬ БІЗНЭСУ, ШТО ПАДТРЫМЛІВАЕ РЭЖЫМ

У ВЫНІКОВЫМ ДАКУМЕНЦЕ, ПРЫНЯТЫМ 23 САКАВІКА Ў БРУСЕЛІ НА ПАСЯДЖЭННІ САВЕТА МІНІСТРАЎ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ КРАІН ЕС, ЗАЗНАЧАЕЦЦА: СПІС ПРАДСТАЎНІКОЎ БЕЛАРУСІ, СУПРАЦЬ ЯКІХ ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ САНКЦЫІ, ПАШЫРАНЫ ЗА КОШТ «ЛЮДЗЕЙ, АДКАЗНЫХ ЗА СУР'ЁЗНЫЯ ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА АБО РЭПРЭСІІ Ў ДАЧЫНЕННІ ДА ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ І ПАЛІТЫЧНАЙ АПАЗІЦЫІ».

Савет ЕС таксама прыняў рашэнне аб уключэнні ў спіс бізнесменаў і кампаній, якія «атрымліваюць выгаду ад рэжыму або падтрымліваюць яго», і пакідае за сабой магчымасць далейшага пашырэння абмежавальных мер на сваіх наступных пасяджэннях, калі палітзняволеныя не будуць вызвалены.

Еўрасаюз зноў заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных.

У дакуменце асуджаецца адмова ў задавальненні касацыйнай скаргі праваабаронцы Алеся Бяляцкага і асуджэнне на два гады і адзін месяц пазбаўлення волі актывіста апазіцыі Сяргея Каваленкі. Апрача таго, гаворыцца аб «сур'ёзнай занепакоенасці ЕС» адносна інфармацыі аб магчымым прымяненні катаванняў і жорсткім абыходжанні ў дачыненні да палітзняволеных у турмах, у тым ліку да Андрэя Саннікава, Мікалая Статкевіча, Дзмітрыя Бандарэнкі, Дзмітрыя Дашкевіча і Мікалая Аўтуховіча.

Савет ЕС асудзіў прывядзенне ў выкананне смяротных прысудаў Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву, зноў заклікаў беларускія ўлады да ўвядзення мараторыя на смяротную кару і зазначыў, што Еўрасаюз выступае супраць гэтага віду пакарання пры любых акалічнасцях.

Еўрасаюз зноў заклікаў беларускія ўлады спыніць усякі пераслед прадстаўнікоў апазіцыі, грамадзянскай супольнасці, праваабаронцаў, журналістаў і не абмяжоўваць іх свабоду перамяшчэння. «ЕС асуджае задушэнне мірных пратэстаў і сістэматычнае выкарыстанне судовай сістэмы для рэпрэсій, у тым ліку ў дачыненні да мірных пратэстантаў, — гаворыцца ў дакуменце. — ЕС таксама моцна занепакоены зменамі ў заканадаўстве, якія яшчэ больш абмяжоўваюць правы беларускіх грамадзян на свабоду сходаў, асацыяцый і доступу інфармацыі ў сетцы інтэрнэт».

Апрача таго, ЕС мае намер праінфармаваць міжнародную і нацыянальныя хакейныя федэрацыі аб «адсутнасці ў Беларусі павагі да правоў чалавека, вяршэнства закону і дэмакратычных прынцыпаў».

У дакуменце зазначаецца, што ЕС «глыбока прыхільны падтрымцы беларускага народа і грамадзянскай супольнасці і супрацоўніцтву з імі, а таксама дэмакратычным памкненням беларусаў». Савет ЕС вітае рашэнне аб запуску праграмы Еўрасаюза «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі» з беларускім грамадствам, якая прадугледжвае неабходныя рэформы ў Беларусі, а таксама магчымую падтрымку ЕС у сувязі з гэтым.

Еўрасаюз таксама заклікае беларускія ўлады пачаць нацыянальны дыялог з грамадзянскай супольнасцю і апазіцыяй, каб «пракласці шлях» для правядзення парламенцкіх выбараў у 2012 годзе ў адпаведнасці з міжнароднымі нормамі і стандартамі, заклікае супрацоўнічаць з АБСЕ і прытрымлівацца ўзятых на сябе абавязацельстваў як краіна — удзельніца гэтай арганізацыі, паведамляе БелаПАН.

ЕС зноў заяўляе пра сваю гатоўнасць пачаць перамовы па пагадненнях аб аблягчэнні візавага рэжыму і аб рэадмісіі, якія «ўмацавалі б кантакты паміж людзьмі, што пайшло б на карысць жыхарам Беларусі», і шкадуе «аб некантруктыўнай пазіцыі беларускіх уладаў, якія не адказалі дагэтуль на ліст, накіраваны ў чэрвені 2011 года, што заклікаў пачаць перамовы».

ДЗЕНЬ ВОЛІ

# ПЛЕБІСЦЫТ У ІМЯ БЕЛАРУСІ

СВЯТКАВАННЕ ДНЯ ВОЛІ – ГЭТА ПУБЛІЧНЫ АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎРОК ГІСТОРЫІ, ПЛЕБІСЦЫТ БЕЛАРУСАЎ НА ВЕРНАСЦЬ ПАМЯЦІ ПРОДКАЎ, НАЙВЫШЭЙШАЯ ПРАЯВА СІЛЫ БЕЛАРУСКАГА ДУХУ І ПРАГІ ДА СВАБОДЫ.

Любая форма адзначэння гэтага Свята – годная і патрэбная.

Але толькі ў супольным парыве, талакой, беларусы патрапляюць рабіць больш і найлепш, дасягаць амаль немагчымага.

Асабліва важным ёсць шанаванне нашага Свята сёння - у варунках дыктатуры і дзяржаўнага пераследу беларусаў-патрыётаў.

Святкаваць Дзень Волі –

• гэта віншаваць блізкіх і сяброў;

• гэта аздобіць нацыянальнымі сімваламі дом, машыну, вопратку;

• гэта ўшанаваць памяць герояў Беларусі;

• гэта праявіць салідарнасць з сённяшнімі змагарамі, асабліва з тымі, хто, як Зміцер Дашкевіч, Сяргей Каваленка, Мікола Статкевіч, Андрэй Саннікаў, Павел Севярынец ды іншыя палітвязні, несправядліва кінуты за краты турмаў;

• гэта ладзіць адмысловыя выставы, чытанні і канферэнцыі;

• гэта сабрацца за святочнай бяседай;

• гэта размаўляць на мове продкаў і пісаць дыктоўкі па неўміручых тэкстах;

• гэта збірацца на мітынгі і ісці шэсцямі па вуліцах гарадоў, мястэчак ды вёсак.

Ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі – вельмі актуальныя для нас сёння і будуць такімі надалей. Нам след будаваць сапраўды Беларускую і сапраўды Народную Рэспубліку, нашу краіну, дзе мы гаспадары. БНР – не проста сімвал, а альтэрнатыва РБ. Каштоўнасць незалежнасці – абсалютная для вольнага народу. Наша дзяржаўніцкая традыцыя і намаганні, зробленыя дзеля еднага аднаўлення і захавання, - унікальныя.

Беларусь жыве і будзе жыць тады, калі яна не толькі жыве, але і дынамічна развіваецца, стварае найлепшыя ўмовы для самарэалізацыі сваіх грамадзянаў, шануе сваю мову, культуру і знаходзіць паразуменне сярод суседзяў.

Беларусы!

Згадайма, як бягуць мурашы па скуры пасля магутнага воклічу "Жыве Беларусь"!

Згадайма, як трымціць сэрца ад гонару за велічна ўзняты бел-чырвона-белы сцяг са святой "Пагоняй"!

Каму, як не нам, абараняць нашу незалежнасць, свабоду, мову і права на годнае жыццё!

Мы маем шанец выйсці ў Дзень Волі на галоўны праспект сталіцы, каб прадэманстраваць нашу пашану да гісторыі і рашучасць дзеля будучыні.

Будзьма ж разам 25 сакавіка на Акадэміі Навук! Хай наш сцяг лунае над галовамі і натхняе нас на лепшае.

Жыве Беларусь!

**Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ.**

ПАМЫЛКОВЫ АДКАЗ

# Эксперт: Ермакова атаясамляе сябе з Маўродзі

КІРАЎНІК АНАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРА «СТРАТЭГІЯ» ЛЕАНІД ЗАЙКА НАЗВАЎ ПАМЫЛКІ КІРАЎНІКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ НАДЗЕІ ЕРМАКОВАЙ, ЗА ЯКІЯ, У СВОЙ ЧАС, СТАВІЎ СТУДЭНТАМ «ДВОЙКІ».

У ходзе «прамой лініі» у газеце «Рэспубліка», якая была апублікаваная, кіраўнік Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова заявіла, што «заканадаўствам не прадугледжана кампенсацыя укладчыкам тых грошай, якія абясцэньваюцца ў працэсе інфляцыі».

Разам з тым, яна сказала, што Беларусь - гэта справядлівае дзяржава, і абгрунтавала сваё меркаванне: «Улічваючы тое, што многія грамадзяне ў мінулым годзе сапраўды панеслі пэўныя страты ў сувязі з дэвальвацыяй і высокай інфляцыяй, дзяржавай зараз актыўна прымяняюцца іншыя кампенсацыйныя механізмы - павялічваюцца пенсіі, дапамогі, расце заработная плата».

Вядомы беларускі эканаміст Леанід Заіка лічыць, што кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі «зрабіла вельмі дрэнную рэч». Як сказаў эксперт карэспандэнту сайта «Таварищ.online», «яна атаясамляе сябе з Маўродзі. Як навуковец, спецыяліст у галіне эканамічнай тэорыі хачу падкрэсліць, што насельніцтва страціла ад дэвальвацыі ».

Паводле яго слоў, насельніцтва да 2011 года аддавала грошы, якія ў міжнародных супастаўлення маглі раўняцца, умоўна, 3 мільярдам даляраў. «А вось пасля дзеянняў Нацбанка, праўда, сама Ермакова да гэтага не датычная, трэба быць сумленным, замест 3 мільярдаў застаўся адзін. Гэта значыць свае абавязацельствы банкі не выканалі, але не выканалі па прычыне памылак менавіта Нацыянальнага банка», - перакананы эканаміст.

Ён кажа, што калі б Беларусь была крайнай з моцнай прававой сістэмай, то індэксаваць прыйшлося б. А меркаванне Ермаковай аб павышэнні, лічыць некампетэнтным. «Нейкія выплаты, рост заробкаў і пенсій не маюць ні-я-ка-га дачынення да пытання кампенсацыі. У гэтым галоўная тэарэтычная памылка спадарыні Ермаковай, - заяўляе Заіка. - Зберажэнні не маюць ніякага дачынення да грашовых патокаў, да патокаў даходаў, якія ствараюцца цяпер. За такія памылкі я ў свой час ставіў «двойкі» студэнтам, сярод якіх, напэўна, былі і калегі Ермаковай».

ШТУЧНЫ КУРС

# КУРС РУБЛЯ ОПЯТЬ ПОДДЕРЖИВАЕТСЯ ИСКУССТВЕННО

В МАРТЕ СПРОС НА ДОЛЛАРЫ ПРЕВЫСИЛ ПРЕДЛОЖЕНИЕ. ЧТОБЫ НЕ ДОПУСТИТЬ ОСЛАБЛЕНИЯ БЕЛОРУССКОГО РУБЛЯ, НАЦИОНАЛЬНОМУ БАНКУ ВНОВЬ ПРИШЛОСЬ ПРИБЕГНУТЬ К ВАЛЮТНЫМ ИНТЕРВЕНЦИЯМ.

Такой вывод делает interfax.by, основываясь на данных Белорусской валютно-фондовой биржи. В период с 1 по 26 марта на торгах БВФБ валовый спрос на доллары превысил предложение почти на 94 миллиона USD. По логике курс белорусского рубля по отношению к американской валюте должен был снизиться. Но на практике он вырос, хотя и незначительно, что «свидетельствует о возобновлении валютных интервенций со стороны НББ после почти 4-месячного перерыва».

Есть и другие основания полагать, что курс рубля поддерживается искусственно. Как пишет «Белгазета», «показатели денежной массы пошли в гору обескураживающими темпами».

В феврале объём наличных денег (показатель М0) увеличился на 12,7%, денежный агрегат М1 – на 13,4%, рублевая денежная масса (М2) – на 9%. Широкая денежная масса на начало марта составила 114,9 триллиона рублей – большего показателя М3 в истории Беларуси не было.

Тем, для кого все эти М0, М1 и так далее – темный лес, поясним: печатный станок вновь включился. И это еще до посевной, на которую потребуется почти 10 триллионов рублей.

Кстати, инфляция в Беларуси с начала года составила уже около 5%, а вот рубль за этот же период не подешевел, а подорожал по отношению к доллару более, чем на 4%. Обычно так не бывает.

Однако всё это цветочки по сравнению с нашими «блестящими» перспективами. Помимо валютных интервенций на бирже, Национальный банк сейчас стерилизует рублевую массу посредством депозитов и краткосрочных облигационных займов аж под 30%. Но долго так продолжаться не может. Тем более, что уже объявлено про планируемое снижение ставки рефинансирования. А вместе с ней упадут и проценты по депозитам, как для субъектов хозяйствования, так и физических лиц. Что автоматически сделает вклады в национальной валюте менее привлекательными. В результате часть держателей начнет избавляться от белорусских рублей. Возрастет спрос на иностранную валюту. А в итоге – очередная девальвация: плавная или обвальная.

Даже если вышеизложенный сценарий каким-то чудом удастся предотвратить, рубль это в среднесрочной перспективе не спасает. Реформы в экономике вновь отложены в долгий ящик, а это значит, что причины, которые привели к девальвациям 2009 и 2011 гг., не устранены, пишет «Салідарнасць». Более того, власти вновь собственноручно организовывают очередной кризис, настаивая на повышении зарплаты до 500 долларов в течение года. Так что, очередной обвал белорусского рубля – это лишь вопрос времени.

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

# ЧАМУ БЕЛАРУСЫ СМУТКУЮЦЬ АБ СВАІХ ТЭРАРЫСТАХ?

КАВАЛЁВА І КАНАВАЛАВА ПРЫЛІЧЫЛІ ДА АХВЯРАЎ ВЫБУХУ, ЗА ЯКІ ІХ РАССТРАЛЯЛІ.

Рэакцыя беларусаў, якія лічаць, што віна Кавалёва і Канавалава не была даказаная, выявілася вельмі хутка. У сацыяльных сетках многія тут жа паставілі аватары з жалобнай стужкай і надпісам «15 +2 = 17»: да пятнаццаці якія загінулі ў выніку выбуху народ дадаў яшчэ двух. Беларускія сучасныя мастакі зрабілі некалькі плакатаў, на адным з якіх твар Кавалёва заліта крывёю, паэты напісалі вершы-рэквіемы. У «Фэйсбуку», на старонцы Таццяны Кавалёвай, сястры Уладзіслава, людзі пакідаюць спачуванні, падобныя адзін на аднаго - прыміце шчырыя спачуванні, трымайцеся, смуткуем.

Партрэт пакаранага Уладзіслава Кавалёва з'явіўся каля станцыі метро «Кастрычніцкая» ў Менску, на якой адбыўся выбух 11 красавіка 2011 года. Побач з выхадам са станцыі ўстаноўлена мемарыяльная таблічка, мінчане ўжо год нясуць да яе кветкі ў памяць аб загінуўшых. Партрэт Кавалёва з жалобнай стужкай прастаяў некалькі дзясяткаў хвілін, да яго паспелі паставіць запаленую царкоўную свечку і ўскласці кветкі. Пасля гэтага чалавек у цывільным, праўдзівы род занятках якога выдаваў слухаўка сувязі ў вуху, партрэт панёс, а двух мінчанак, якія спрабавалі пакінуць па дзве гваздзікі каля яго, адвялі ў стаялы непадалёк мікрааўтобус.

Нарад АМАПу дзяжурыць у Віцебску ў дамоў, дзе жылі Кавалёў і Канавалаў, да пад'езда не падпускаюць людзей з жалобнымі букетамі, некалькі чалавек затрымалі, але пазней адпусцілі без складання пратаколу. Суседзі сям'і Кавалёвых ўвесь вечар ішлі да маці пакаранага з выразам спагады, а камусьці з віцябчан атрымалася патрапіць у дом і ўскласці кветкі з чорнай стужкай і паставіць запаленую свечку ў кватэры Кавалёвых. Некалькі свечак стаіць і ў школы, дзе вучыліся пакараныя. Днём у нядзелю партрэт Кавалёва павесілі ў пераходзе ў віцебскай плошчы Перамогі, дзе адбыўся адзін з выбухаў, у якіх абвінавацілі Кавалёва і Канавалава.

Кветкі і партрэт аднаго з пакараных па справе аб выбуху ў мінскім метро з'явіліся ля амбасады Беларусі ў Францыі. У Вільні беларускую амбасаду «закавалі ў кайданкі» - замацавалі іх паміж прутамі агароджы, гэта мае на ўвазе, што Беларусь - паліцэйская дзяржава. У Брусэлі на беларускай амбасадзе зроблена графіці чырвонай фарбай: «Гэта пасольства забойцы Лукашэнка, а не краіны Беларусь».

Каля амбасады Беларусі ў Маскве ўзмоцнена ахова, супрацоўнікі асцерагаліся несанкцыянаваных акцый. Да будынку амбасады на Марасейцы вечарам у суботу і ўсё нядзелю прыходзілі людзі, прынасілі кветкі і свечкі да партрэтаў пакараных. Было праведзена некалькі адзіночных пікетаў. Людзі сталі з плакатамі «Супраць смяротнага пакарання!» і «Іх забілі па капрызе Лукашэнку!». А позна вечарам сабраліся каля 40 чалавек, якія ўсклалі кветкі і запалілі памінальныя свечкі.

Маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва ўпэўненая, што з яе сынам расправіліся, каб схаваць сляды страшнага злачынства. Яна заявіла, што будзе змагацца супраць тых, хто сапраўды падарваў бомбу ў метро:

-Яны з ім ўправіліся, таму што Уладзік ў судзе праўду сказаў. Хто вінаваты? Толькі не гэтыя хлапчукі. З Уладам яны размінуліся толькі за тое, што праўда выйшла. Яны не чакалі. Яны Уладу прыгразілі. Калі Улад памяняе паказанні ў судзе, яго чакае вышэйшая мера. Улад не спалохаўся. Ён усё гэта распавёў. Зразумейце, усё пайшло не па сцэнары. І цяпер усё гэта выйшла вонкі. Яны выдатна ведаюць, хто гэта зрабіў, хто падарваў метро. Ні Уладу, ні Дзімку гэта не трэба было, зразумейце! Я думаю, што зараз, дзякуючы ўсяму гэтаму, увесь свет падымецца і будзе расследаванне сапраўды так, як трэба, а не проста, што я адна тут змагалася, што я адна супраць іх ішла. Яны мне адпомсцілі, разумееце? Гэта проста помста маці. Цяпер я думаю, што сапраўды не спынюся ні перад чым. Здзіўляе паспешлівасць, з якой прысуд быў прыведзены ў выкананне: аб тым, што Лукашэнка адмовіў Кавалёву ў памілаванні стала вядома толькі 14 сакавіка, і ўжо праз два дні асуджаных расстралялі, нягледзячы на тое, што не былі нават выкананыя прававыя працэдуры. Праваабаронца Тацяна Равяка здзіўляецца:

- Беларускія ўлады захацелі падмануць нават камітэт па правах чалавека ААН, таму што паведамлялі, што скарга ў камітэт па справе Кавалёва і Канавалава не можа быць разгледжана, паколькі спачатку павінны быць выкарыстаныя ўсе нацыянальныя механізмы - наглядная скарга і памілаванне. Аднак, як усе ўжо ведаюць, адвакатам не далі магчымасці падаць наглядную скаргу, і, каб пазбегнуць ўздзеяння ААН, маментальна пакаралі смерцю асуджаных.

Эксперты мяркуюць, што такое грэбаванне міжнароднымі прававымі нормамі і настойлівымі заклікамі Еўрасаюза адмовіцца ад пакарання Кавалёва і Канавалава, пацягне за сабой сур'ёзныя наступствы для Лукашэнкі з боку Захаду.

Спікер Еўрапарламента Марцін Шульц выступіў з рэзкім асуджэннем расстрэлу Уладзіслава Кавалёва:

- Я шакаваны паведамленнем аб расстрэле Уладзіслава Кавалёва ў Беларусі. Ад імя Еўрапейскага парламента я шлю спачуванні яго сям'і. Я глыбока шкадую, што беларускія ўлады не прыслухаліся да заклікаў спыніць выкананне смяротнага прысуду з боку структур ЕС і міжнародных праваабарончых арганізацый. Я заклікаю ўлады Беларусі праявіць чалавечую годнасць і вярнуць цела сям'і. Пахаванне ў ананімнай магіле проста агідна і недапушчальна ў Еўропе 21 стагоддзя.

З асуджэннем пакарання выступілі таксама старшыня ПАСЕ Жан-Клод Міньён, генеральны сакратар СЕ Турб'ерн Ягланд, міністр замежных спраў Германіі Гіда Вестэрвеле, а таксама кіраўнік ведамства канцлера Ангелы Мэркель - Рональд Пафала. Міністр замежных спраў Галандыі Уры Розенталь не толькі асудзіў дзеянні беларускіх уладаў, але і выступіў з заклікам да неадкладнага ўжывання санкцый.

Нагадваем, што пасля таго, як Лукашэнка адмовіўся памілаваць Кавалёва, Еўрапарламент даў беларускаму прэзідэнту час падумаць і перамяніць сваё рашэнне, адклаўшы галасаванне па праекце рэзалюцыі аб сітуацыі ў Беларусі на канец месяца. Цяпер жа, пасля таго, як гэты жэст быў праігнараваны, нічога не перашкаджае еўрапарламентарыям канчаткова прагаласаваць за ўвядзенне палітычных і эканамічных санкцый у дачыненні да рэспублікі.

**20.03.**
**svpressa.ru/society/article/53649/**

АЗІЯЦКІ НАПРАМАК

# ПОЧЕМУ В МОСКВЕ ЛУКАШЕНКО КУСАЛ ГУБЫ?

ГЛАВНЫМ ИТОГОМ САММИТА ЕВРАЗЭС СТАЛО РЕШЕНИЕ ПОВРЕМЕНИТЬ С ЛИКВИДАЦИЕЙ ЭТОЙ ОРГАНИЗАЦИИ. ГЛАВА БЕЛАРУСИ ПРЕБЫВАЛ В МОСКВЕ НЕ В ЛУЧШЕМ РАСПОЛОЖЕНИИ ДУХА, А НА ФОТОГРАФИЯХ ВИДНО, КАК АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО ДАЖЕ КУСАЕТ ГУБЫ. ПОЧЕМУ БЕЛОРУССКОЕ РУКОВОДСТВО ЧУВСТВУЕТ СЕБЯ ДИСКОМФОРТНО?

По мнению политического обозревателя еженедельника «Белорусы и рынок» Павлюка Быковского, участникам саммита не удалось договориться по основным вопросам и это свидетельство «достаточно серьезных противоречий». Странам-партнерам России есть что терять — значимую часть суверенитета.

**Придется пускать предприятия с молотка**

— А белорусская сторона, наверное, не смогла получить ни очередного транша кредита от Антикризисного фонда ЕврАзЭС, ни обещаний на сохранение серьезных преференций со стороны России на ближайшее будущее, — отмечает эксперт.

То, что известно широкой аудитории о ценах на газ, не в полной мере выглядит как однозначно выигрышная позиция для белорусской стороны. Ведь там есть и такой пункт, как возможность потребовать от белорусской стороны одномоментно выкупить все акции «Белтрансгаза». Что касается нефти, то пошлины, которые Беларусь вынуждена платить в российский бюджет, во многом снимают ту выгоду, которую страна получила, согласившись вступить в этот евразийский проект.

У загвоздки в получении последнего транша кредита АКФ ЕврАзЭС есть официальные объяснения, касающиеся невыполнения белорусской стороной обязательств по госпрограммам — поддержке за счет бюджета отечественных производителей, например.

— Государственные программы превышают разрешенный кредитным соглашением объем. И уже это достаточное основание, чтобы не перечислять очередной транш кредита, — напоминает Павлюк Быковский.

Белорусское руководство вынуждено пускать с молотка ряд предприятий: на два с половиной миллиарда долларов надо продать собственности, поскольку это одно из условий получения дальнейших траншей кредита.

— Сейчас, когда идет холодная война с Западом, для российского капитала скупка привлекательных белорусских активов — просто дело техники.

Это весьма опасная перспектива, учитывая разность масштабов Беларуси и России, — отмечает политолог Александр Класковский.

**Делиться прерогативами белорусское руководство не намерено**

По мнению аналитика, Александр Лукашенко кусал губы еще и потому, что чувствует опасности втягивания в евразийскую интеграцию.

— Но у него, по сути, нет выбора. Точнее, он сам перечеркивает европейскую альтернативу такими вызывающими шагами, как введение «черного списка» невыездных или же расстрел двух людей, обвиненных во взрыве бомбы в минском метро, — отмечает аналитик. — Официальный Минск сейчас вынужден подыгрывать Кремлю и не раздражать Москву, поскольку мосты на Запад сожжены, экономика «сидит» на российской игле.

Сами по себе итоги саммита, по мнению аналитика, являются промежуточными.

— Беларусь, худо ли бедно, но какие-то плюсы получает именно от самого процесса участия в реализации кремлевских проектов. Самое главное, что на несколько лет вперед получены дешевые энергоносители, — обращает внимание эксперт.

Однако и проблем много. Во-первых, разные экономики: Россия и Казахстан — сырьевые страны, Беларусь — сборочный цех.

— Уже по этой причине трудно состыковать их — вот почему так мучительно бьются вокруг тарифов и цен на энергоносители, — полагает Александр Класковский.

Белорусская экономика является практически нерыночной, а в Казахстане и России рыночные реформы пошли гораздо дальше. И третья причина — это нормативные рамки Единого экономического пространства, которые в скором времени принудят координировать, в частности, макроэкономическую и финансовую политику, что для белорусского руководства тоже весьма неприятно.

Александр Класковский подытоживает: впереди все меньше будет пряников и все больше напрягающих моментов, не говоря уже о том, что переход на общую денежную единицу и делегирование иных полномочий наднациональным органам будет чем дальше, тем больше грозить утратой элементов белорусского суверенитета.

**Геннадий КОСАРЕВ.**

ВАЛЮТНАЯ ВЫРУЧКА

# Ці падзеліцца дзяржава валютнай выручкай з народам?

БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ДАЮЦЬ СПРАВАЗДАЧУ ПЕРАД НАСЕЛЬНІЦТВАМ АБ РЭКОРДНЫХ ТЭМПАХ РОСТУ ВАЛЮТНАЙ ВЫРУЧКІ І НЕБЫВАЛЫХ СУМАХ ЯЕ ПРЫТОКУ Ў КРАІНУ. НА ЯКУЮ ЧАСТКУ ВАЛЮТНАГА ПІРАГА МОГУЦЬ РАЗЛІЧВАЦЬ ШАРАГОВЫЯ БЕЛАРУСЫ?

- Сітуацыя ў эканоміцы цяпер адносна раўнаважкая, таму тэарэтычна павышэнне выручкі прапарцыйна павінна садзейнічаць далейшаму павышэнню ўзроўню жыцця насельніцтва. Аднак на практыцы гэтага не адбываецца, - адзначае эканаміст Сяргей Чалы, падкрэсліваючы, што паміж ростам экспарту і дабрабыту насельніцтва хутчэй існуе не прамая, а зваротная сувязь.

- Знешняя канкурэнтаздольнасць беларускай прадукцыі і гандлёвы баланс палепшыліся як раз дзякуючы падзенню рэальных даходаў і ўзроўню жыцця, дэвальвацыі і, адпаведна, скарачэння вытворчых выдаткаў у даляравым выразе, - кажа эксперт. - Але калі прадпрыемствы здолеюць зарабіць дадатковую валюту, яны цалкам могуць дзяліцца заробленымі грашыма са сваімі работнікамі.

А вось дзяржава, паводле яго слоў, выгодамі, атрыманымі ад Расеі, ні з кім дзяліцца не збіраецца.

- Мы выходзім на дадатнае сальда, у тым ліку і за кошт скарачэння кошту газу і нафты. Аднак ўнутраны кошт застаецца нязменным, было гэта 245 даляраў за кубаметр газу або цяперашні 165 даляраў, - аргументуе Сяргей Чалы.

Дадатковыя грошы ідуць «у бюджэтную скарбонку». У выніку іх могуць атрымаць некаторыя катэгорыі бюджэтнікаў. І можа да парламенцкіх выбараў штонебудзь падкінуць.

**Андрэй Саковіч.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197

**Падпісана да друку 28.03.2012 у 18.15.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.